# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


## МІЛЬЁН ЗА ПЛОМБУ




ГЭТА ШМАТ?

СТАР. 4–5

## “РАЗУМНЫХ ДЫЙ БЕДНЫХ”



СТАНОВІЦЦА БОЛЬШ

СТАР. 6–7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 09.08.12-15.08.12 г.

# ПЯТАЕ КОЛА У РАСІЙСКА-КІТАЙСКАЙ ДРАБІНЕ

Аляксандр Лукашэнка агучыў пажаданне, каб “мы в этом большом сотрудничестве огромных государств не были лишней шестеренкой”.




*Калі трэці лішні*

### ХТО НА НАС З ВАСЕМ?

Імкненне завесці “крутых сяброў” уласціва цяперашняму кіраўніку Беларусі здаўна. Часам сітуацыя крыху нагадвае стары анекдот.

У клас заходзіць новы вучань, досыць хударлявы хлопец непераканаўчага выгляду, і пытаецца:

— Ну, хто на мяне?

Да яго падыходзіць вялізны бамбіза і кажа:

— Ну я!

— А ты хто?

— Я Вася.

Малы становіцца побач з бамбізам і пытаецца:

— Ну, хто на нас з Васем?!

На ролю патэнцыяльных дэмакратыі і зусім не заклапочаны праблемай парушэння правоў чалавека.

Здавалася б, навошта кіраўніку Беларусі КНР, калі пад бокам ёсць “адвечны славянскі брат”? Аднак для Лукашэнкі ніколі не было сакрэтам, што Масква мае звычку досыць жорстка дыктаваць умовы сваім сатэлітам. Таму ён шукаў і шукае супрацьвагу Крамлю.

Яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя Лукашэнка загаварыў пра вось Мінск — Масква — Пекін. Тады да яе кіраўнік Беларусі спрабаваў прышчапіць яшчэ і Дэлі, аднак з Індыяй ніякіх сур’ёзных кантактаў не ўсталявалася. Таму Лукашэнка выкрасліў яе з “ганаровага клуба”.

> “Здавалася б, навошта кіраўніку Беларусі КНР, калі пад бокам ёсць “адвечны славянскі брат”? Аднак для Лукашэнкі ніколі не было сакрэтам, што Масква мае звычку досыць жорстка дыктаваць умовы сваім сатэлітам. Таму ён шукаў і шукае супрацьвагу Крамлю”.

“Васяў” Лукашэнка ад самага пачатку свайго кіравання разглядаў Расію і Кітай, бо гэтыя дзве краіны не надта схільныя

### КІТАЙ НЕ СПЯШАЕЦЦА

Абсурднасць гэтай ідэі была відавочная хаця б праз зусім розную вагу Расіі ды Кітая, з аднаго боку, і Беларусі, з другога. Аднак Лукашэнка ўпарта імкнуўся стварыць бачнасць буйной геапалітычнай гульні.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## РЭП СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентуе музычны відэакліп на гэтую тэму. Стварылі яго маладыя дзяўчаты з магілёўскага рэп-гурта «Прадмова» Роня Роніч і Каця Красавік пры ўдзеле Уладзіміра Някляева, Адама Глобуса, Любові Кавалёвай і праваабаронцаў.

Гісторыя з’яўлення гэтага відэа-кліпа і вельмі простая, і незвычайная. У мінулым годзе на адной з летніх школаў па правах чалавека сустрэліся маладыя спявачкі і выпускнік Акадэміі мастацтваў з рэжысёрскага факультэту. Трэба сказаць, што на тэму смяротнага пакарання падчас школы адбылася не адна гарачая дыскусія, і моладзь вырашыла зрабіць сваё унёсак у справу найхутчэйшага вырашэння гэтай балючай для Беларусі праблемы. І зрабілі – сваімі сродкамі: напісалі словы і музыку, сцэнар, і ў пачатку жніўня адбыліся здымкі самога відэакліпа.

Падтрымку сваім аўтарытэтам у стварэнні кліпа аказалі вядомыя ў Беларусі людзі – паэт і пісьменнік Уладзімір Някляеў, паэт і мастак Адам Глобус, прыняла прапанову ўдзельнічаць у здымках і маці расстралянага зусім нядаўна Уладзіслава Кавалёва – Любоў Кавалёва. За гэтую падтрымку – ім асобны дзякуй.

# ШТО МОЖАЦЕ САБЕ ДАЗВОЛІЦЬ НА ПАВЫШАНУЮ ПЕНСІЮ?

Дзяржава на днях сказала пажылым: атрымайце чарговую надбаўку да пенсіі і будзьце шчаслівы! У тым, ці будзе ім шчасце, разбіралася "Тут і цяпер".

**АЛЯКСАНДР САСНОЎ, ЭКС-МІНІСТР ПРАЦЫ:**
### "ДАЗВАЛЯЮ САБЕ КАВУ Ў ЗЯРНЯТАХ".

— Пенсія ўдвая вырасла толькі намінальна. Гэта без уліку інфляцыі і змянення курса долара. А калі пралічыць яе рэальны рост, то там будуць зусім іншыя лічбы. У рэальным вылічэнні пенсія вырасла на 25 працэнтаў, а не 76. Да верасня яна і павінна расці, каб выбары прайшлі добра. Абяцаюць у жніўні яе яшчэ трохі падняць — гэта перад галасаваннем. Я гэты рост адчуў: зараз дазваляю сабе нават натуральную каву ў зярнятах. Раней жа, на пачатку года, я не мог сабе гэтага дазволіць.

**УЛАДЗІМІР КУЛЕШ, ПЕНСІЯНЕР (АСІПОВІЦКІ РАЁН):**
### "МОЖА, ПРЫ КОЛЮ ЛУКАШЭНКУ ПЕНСІІ БУДУЦЬ БОЛЬШЫЯ…".

— Дзякуй бацьку за тое, што грошы дае. Не забываецца на нас. Мо і няшмат, але нам хапае. Пенсіянеры зараз атрымліваюць больш, чым калгаснікі. І гэта правільна! Мы ж некалі працавалі за "палачкі"… Касцямі клаліся і не нылі, дык хоць цяпер пажывём! А моладзь і не ведае, што такое работа. Хоча, каб без працы грошы давалі. А так не бывае. Хай папрацуюць! Хай дажывуць да нашага ўзросту! Можа, пры Колю Лукашэнку большыя пенсіі будуць…

**СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ, ЭКАНАМІСТ:**
### "ПАЧАЎ ЛІЧЫЦЬ КАПЕЙКУ".

— Пенсія папяровая ў нас сапраўды расце. Але галоўная задача не ў росце грашовай масы, а ў тым, каб цэны не раслі. Калі ўзяць першае паўгоддзе мінулага года і параўнаць з першым паўгоддзем гэтага, то цэны выраслі больш чым у два разы. Звычайна нашы ўлады зімой паведамляюць аб павелічэнні цэн за паўгоддзе, а параўноўваць трэба з тым, што было год назад. Падваенне адбылося, а калі так, то трэба і колькасць паперак падвойваць. Аднак гэта не вядзе да павышэння ўзроўню жыцця. У нейкай ступені гэта дае магчымасць людзям выжываць, але не спрыяе дабрабыту. Калі б у нас рост быў, як ва ўсім цывілізаваным свеце, не больш за тры працэнты, а зарплаты і пенсіі выраслі працэнтаў на дзесяць, то гэта быў бы рэальны рост узроўню жыцця. Але ж у нас не так. У нас галоўная бяда — рост цэн, інфляцыя. Прычым цэны трэба ўлічваць не чохам, а на тавары першай неабходнасці, якія набывае насельніцтва: прадукты харчавання, транспарт, камунальныя паслугі. Бо высокія цэны на прадметы раскошы ніяк не ўплываюць на шараговага грамадзяніна. За апошнія паўгода я стаў лічыць капейку. Думаю, як і пераважная большасць пенсіянераў. Людзі сталі больш эканоміць.

**АФІЦЫЙНА**

**У Беларусі сярэдняя пенсія ўсіх відаў у жніўні бягучага года складае 1 млн 657,3 тыс. рублёў — на 76,2% больш, чым у снежні мінулага года. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

**У гэтым месяцы сярэдняя пенсія па ўзросце складае 1 млн. 721,4 тыс. рублёў, мінімальная па ўзросце (з улікам даплаты да яе) — 1 млн 210 тыс.**



*Манет быццам больш, а купіш на іх менш*

**НАДЗЕЯ СЕМЯНОВІЧ, ПЕНСІЯНЕРКА (МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН):**
### "НЯМА ТОЛКУ АД ГЭТАГА ПАВЫШЭННЯ".

— Вы што, смеяцеся ці што?! Што я магу сабе дазваляць? Гэтыя грошы толькі для таго, каб пражыць. Каб не падпрацоўвалі зборам ягад, дык і не пражылі б. А каб якую рэч сур'ёзную купіць, дык, лічы, праблема. Тэлевізар памяняць ці халадзільнік немагчыма. Таму калі і адчуваецца нешта, дык па дробязях. Трэба ж мыла, парашок пральны купіць. Такім чынам, гэтае павышэнне мы ніяк не адчулі. Суседзі выказвалі радасць: во, павышаецца пенсія! А як раздумаліся, дык пенсіі ўжо і няма. Колькі далі, столькі і адабралі.

**МАРЫЯ САЎЧАНКА (ГОМЕЛЬСКІ РАЁН):**
### "ДЗЕЦІ ЎСЁ ЗАБЯРУЦЬ".

— Адной рукой дае, а другой рукой забірае. Ці ён нас за дурняў трымае? Што тут дазволіш, калі дзецям дапамагаць трэба? Я ўвогуле не разумею, як людзі жывуць у горадзе з тымі камуналкамі, бензінамі ды цэнамі на малако і мяса… Па 60 000 за кілаграм мяса плаціць даводзіцца. Да чаго дажыліся! Што можна адчуць, калі ўсё лішняе аддаеш дзецям? Ведаеце прымаўку "Малыя дзеткі спаць не даюць, а вялікія — жыць"? Такяно і ёсць.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ПЯТАЕ КОЛА У РАСІЙСКА-КІТАЙСКАЙ ДРАБІНЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Нейкі час улады спрабавалі далучыць нашу краіну да ШОС, аднак удзельнікі Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, куды ўваходзяць Кітай, Расія, Казахстан, Таджыкістан, Кіргізія і Узбекістан, адмовіліся надаць Беларусі статус чальца блока.

У выніку кіраўніцтва Беларусі засяродзілася на выбудоўванні двухбаковых адносін. Кітайцам быў прапанаваны "фарпост у цэнтры Еўропы", аднак афіцыйны Пекін не спяшаўся скарыстацца гэтай "зайздроснай" магчымасцю. Толькі апошнім часам намеціліся нейкія зрухі па бізнесе: праектуецца будаўніцтва пад Смалявічамі кітайска-беларускага індустрыяльнага парка, таксама ідзе гаворка пра вытворчасць у нашай краіне кітайскіх аўтамабіляў. Аднак для "восі" гэтага вельмі мала.

## НЕІСНУЮЧАЯ ВОСЬ

Адчувае тое і Аляксандр Лукашэнка, таму на сустрэчы з дзяржсакратаром так званай саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Грыгорыем Рапотам раптам была ўзнята тэма не двух, а трохбаковых адносін.

— Между Китаем и Россией наметилась тенденция тесного сотрудничества. Хотелось бы, чтобы мы в этом большом сотрудничестве огромных государств не были лишней шестерёнкой. Мы хотели бы, чтобы Беларусь была востребована на оси Москва — Пекин, — заявіў Лукашэнка.

Насамрэч, складана весці гаворку нават пра шчыльнае супрацоўніцтва паміж Расіяй і Кітаем, бо шмат у якіх пытаннях інтарэсы гэтых дзяржаў не супадаюць. Далучэнне ж Мінска да неіснуючай восі Масква — Пекін наогул смеху вартае. Лукашэнка хоча змяніць ролю "лішняй шасцярні" на статус "пятага кола" ў расійска-кітайскай драбіне. Але яго прапановы нават разглядацца не будуць буйнымі гульцамі праз абсалютную бессэнсоўнасць.

Куды больш разумна было б паклапаціцца пра аднаўленне нармальных стасункаў з Еўрасаюзам, з якім Беларусь мяжуе. Аднак пра гэта нават гаворкі не ідзе. Наадварот: днямі ўлады Беларусі распачалі чарговы канфлікт, прымусіўшы пакінуць нашу краіну амбасадара Швецыі…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ПРЫВАТЫЗАВАНАЯ ПРЫПЯЦЬ

**Цяпер жыхару Петрыкава альбо вёскі Дарашэвічы пасядзець так проста з вудай на беразе Прыпяці не ўдасца — трэба плаціць. Ніжэй па цячэнні — 60 тысяч за суткі, вышэй — 150 тысяч рублёў.**

"Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот". Гэтае апісанне найпрыгажэйшай беларускай ракі знаёма, бадай, кожнаму беларусу з аповесці Якуба Коласа "Дрыгва".

Але вось незадача: гэта самая спакойная дый павольная Прыпяць нечакана стала для палешукоў ды іншага тутэйшага люду маладаступнай. Яе, па сутнасці, прыватызавалі: адну частку — Нацыянальны парк "Прыпяцкі", другую — таварыства абмежаванай адказнасці "Тарока".

Каб прыдбаць пуцёўку на аматарскае рыбалоўства, петрыкаўцу трэба ехаць за два дзясяткі кіламетраў — у Конкавічы альбо Капцэвічы. Апрача таго, дэпутаты Петрыкаўскага райсавета сваім рашэннем абмежавалі сваім землякам да аднаго кіламетра з трох ранейшых прыбярэжную зону адпачынку, заключыўшы яе паміж слупамі №№ 275 і 276. На гэтым "бясплатным" кіламетры аматарам рыбнай лоўлі таксама не разагнацца: тут і гарадскі пляж, і суднарамонтны з цэглавым заводы. Таму і калыхаецца, і трасецца Палессе. Акурат, як у класіка.

Грамадскі актывіст з Петрыкава Анатоль Хамец таксама не ў захапленні ад новаўвядзенняў: "На тэрыторыі Петрыкаўскага і Жыткавіцкага раёнаў Прыпяць, па сутнасці, прыватызавана, хаця, згодна з указам прэзідэнта № 508, у межах населенага пункта рака не можа быць платнай. Жыхарам Петрыкава фактычна няма як пад'ехаць да ракі, пакупацца, пасядзець з вудай — трэба ехаць за 20 кіламетраў, браць пуцёўку. Нас зрабілі нібыта грамадзянамі іншай краіны. Рака Прыпяць — гэта ж не нацыянальны парк, гэта народная ўласнасць. Людзі абураюцца: як жа так — рака платнай стала? Былі мы і ў мясцовым выканкаме, пісалі ў аблвыканкам, у Адміністрацыю прэзідэнта. Але адусюль ідуць шаблонныя адпіскі: усё на падставе ўказа № 508".



*Так весела, а галоўнае, бясплатна цяпер не парыбачыш*

Рыбак-аматар Васіль у сваю чаргу здзіўляецца новым парадкам на Палессі: "І дзяды, і бацькі нашы рыбу тут лавілі — хіба яны грошы плацілі? Няхай яны закрытыя азёры ўладкоўваюць, прывозяць малькоў, зарыбляюць і бяруць грошы. А як можна браць грошы за народную ўласнасць? Рыба прыйшла з Чорнага мора ці з Дняпра, заўтра яна невядома дзе будзе, і я павінен плаціць? Я заўсёды мог лавіць 5 кілаграмаў рыбы на вуду. Гэта ж не сетка, не невад".

Калі не так даўно Лукашэнка прыязджаў у Кабачок — сваю рэзідэнцыю на Прыпяці, то тутэйшы люд жаліўся яму: ну як жа так, не можам пасядзець на Прыпяці з вудай? Кіраўнік дзяржавы нібыта вырашыў пытанне: пажурыў начальнікаў, загадаў не чапаць палешукоў. А калі ён з'ехаў, кошты на пуцёўкі аматарскага рыбалоўства павялічыліся ў 2 разы.

Дарэчы, разам з ракой Прыпяць арандатарам з ТАА "Тарока" перададзена і дзевяць вадаёмаў у пойме, у тым ліку азёры Вяліжжа, Церабень, Сколадзіна, Бярозавіцкае. Сюды без пуцёўкі таксама не сунешся парыбачыць.

Апрача таго, увесну, з 1 красавіка да 31 траўня, мясцовым жыхарам забаронена пераплываць праз Прыпяць на лодках, нават калі на іншым беразе жывуць іх нямоглыя сваякі. Хочаш іх праведаць — едзь за 80 кіламетраў праз мост.

Так што цяпер паляшук толькі зыркае, як плёскаюцца ў прыпяцкіх бухтах самы. І як калісьці легендарны дзед Талаш, "пазіраючы на гэтыя забаўкі самоў, ссуне з ілба на патыліцу саламяны капялюш, скажа сам сабе: "О, згінь твая маты! Ось пачапіць бы цябе, завалу!".

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ, ПЕТРЫКАЎСКІ РАЁН**

# МІЛЬЁН ЗА ПЛОМБУ –

Ці сапраўды беларускія кошты на прыватныя медыцынскія паслугі высокія нават у параўнанні з анагалічнымі еўрапейскімі?
І ці трэба нам больш недзяржаўных медыцынскіх устаноў?

На гэтыя пытанні шукала адказы **"Тут і цяпер"**.



## ШТО ПА ЧЫМ?

Калі ўзнікаюць праблемы са здароўем, кожны з нас робіць выбар: пайсці і адсядзець некалькі гадзін пад дзвярыма ўчастковага тэрапеўта альбо запісацца да доктара ў недзяржаўны медцэнтр. У першым выпадку гарантаваны сапсаваныя нервы і змарнаваны час, у другім – фінансавыя траты.

Сёння кошты ў прыватных медцэнтрах для многіх беларусаў з заробкам ў 300 і нават 500 долараў у эквіваленце б'юць па кішэні.

*"Схадзіла ў адзін раскручаны прыватны медыцынскі цэнтр на кансультацыю да гінеколага, пакінула 550 тысяч (гэта разам з ультрагукавым даследаваннем і трыма даволі простымі аналізамі)* — гаворыць мінчанка **Інга Сідорчык**, якая працуе начальнікам аддзела ў дзяржаўнай установе. — *З аднаго боку, канечне, дорага, але ж камфортна. Крэсла, інструмент, аднаразовыя пялёнкі — у звычайнай паліклініцы такога няма. Дый адносіны да пацыента больш мяккія, уважлівыя. У звычайнага гінеколага – канвееер, ён з табой доўга размаўляць не будзе".*

*"А я днямі наведаў стаматолага,* — распавядае прадпрымальнік **Сяргей Шахаў**. — *За пломбу давялося заплаціць 730 тысяч беларускіх рублёў. Урач прызначыла яшчэ чатыры візіты — гэта, лічыце, адразу мінус чатыры мільёны. Але я ведаю, за што плачу: за якасныя матэрыялы і ўласны спакой. Стаматолагі мяне заўсёды палохалі, а тут я прыйшоў, атрымаў свой абязбольвальны ўкол і дзве гадзіны слухаю музыку пад маніпуляцыі доктара. Плюс мне ўсё патлумачаць: што рабілі і навошта, і што яшчэ спатрэбіцца ў будучыні. Калі раптам узнікнуць нейкія складанасці, то я магу хоць ноччу патэлефанаваць урачу і параіцца з ім".*

*"Я па прыватных медцэнтрах прынцыпова не хажу — лічу, што такія ж самыя кансультацыі і накіраванне на аналізы можна атрымаць у звычайнай паліклініцы альбо ў дыягнастычных цэнтрах,* — дзеліцца ўласным вопытам старшы менеджар адной з камерцыйных фірм Святлана Бялхлоп. – *Канечне, трэба назапасіся цярпеннем, але нічога немагчымага няма. Альбо яшчэ адзін варынт, які я паспяхова практыкую, – у паліклініках і дзяржаўных дыягнастычных цэнтрах ёсць платныя паслугі, якія абыходзяцца значна танней, чым у тых жа "Ладэ" ці "Экамедсэрвісе". Самае галоўнае — не ленавацца і цікавіцца".*

**Мы параўналі кошты на элементарныя паслугі ў некалькіх сталічных медыцынскіх цэнтрах, і вось што атрымалася.**

| Паслуга/Цэнтр | Кравіра | Ладэ | Нардзін | Экамедсэрвіс |
|---|---|---|---|---|
| **Кансультацыя тэрапеўта** | 91 000 | 125 000 | 130 000 | 120 000 |
| **Кансультацыя гінеколага** | 191 000 | 160 000 *(толькі агляд у крэсле). Дадатковы агляд пры дамамозе ультрагукавога даследавання — яшчэ плюс 95 000* | 135 000 | 126 000 |
| **Кансультацыя атарыналарынголага** | 89 000 | 150 000 | 125 000 | 240 000 |
| **Ультрагукавое даследаванне органаў брушной поласці** | 155 000 | 239 000 | 190 000 | 240 000 |
| **Стаматолаг (звычайная пломба)** | Ад 270 000 | ад 350 000 да 750 000 *(у залежнасці ад складанасці работы і матэрыялу)* | ад 450 000 да 500 000 *Звычайная пломба (без пламбіравання каналаў)* | Ад 300 000 |

**Калі пасля кансультацыі неабходна здаць аналізы і доктар раіць зрабіць іх не ў звычайнай паліклініцы, а ў гэтым жа цэнтры альбо ў спецыяльнай дыягнастычнай лабараторыі, то запатрабуецца яшчэ як мінімум 200 тысяч (у дадатак да агульнага чэка).**

## "ЦЕРАЗ ЗНАЁМЫХ ЗНАЙШОЎ ЗНАЁМЫХ"

Палітык **Віктар Івашкевіч** толькі адзн раз у жыцці наведаў прыватны медцэнтр.

— Гэта было тры гады назад, у мяне моцна балела спіна, і я не ведаў, куды кінуцца, — узгадвае ён. — Прыйшоў туды, але, па-першае, гэта было дорага, а па-другое, усё роўна трэба было запісвацца і чакаць сваю чаргу.

У прынцыпе, там працуюць тыя ж самыя ўрачы, якія кансультуюць у дзяржаўных цэнтрах, але трапіць да іх на прыём там складана. Я спадзяваўся, што ў прыватных цэнтрах будуць меншыя чэргі. Канечне, там не сядзяць людзі па лаўках (гаворка пра папярэдні запіс). І я, шчыра кажучы, больш туды не звяртаўся. Пайшоў іншым шляхам, савецкім: цераз знаёмых знайшоў урачоў, і яны прынялі мяне без чаргі, добра аднесліся.

На мой погляд, ад тых, хто працуе ў прыватных медцэнтрах, не варта чакаць цудаў. Яны таксама, як і ўрачы ў паліклініках, проста кансуль-

# ГЭТА ШМАТ?

туюць. Здаровым у адно імгненне цябе ніхто не зробіць.

## ЗДАРОЎЕ ДАРАЖЭЙШАЕ!

Некалькі гадоў назад вядомы праваабаронца **Валерый Шчукін** разводзіў рукамі: нават яго, здавалася б, нядрэннай пенсіі не хапала на дарагія лекі, якія выпісвалі ўрачы.

— Дзякуй богу, сёння не хварэю, — распавядае Валерый Аляксеевіч. — І калі што, то ёсць ваенны шпіталь, таму што паход у звычайную паліклініку для мяне праблема з-за адсутнасці пастаяннай рэгістрацыі. У свой час я хадзіў у "Ладэ". Вядома, там не вельмі танна, але здароўе даражэйшае, таму калі прыцісне — знойдзеш любыя грошы…

## НЯМА ГРОШАЙ НА ПЛАТНЫ ЦЭНТР?

Думайце, як зарабіць.

Такога меркавання прытрымліваецца экс-міністр аховы здароўя Беларусі **Ігар Зелянкевіч**.

— Цана павінна фарміравацца рынкам, — тлумачыць простыя ісціны Ігар Барысавіч. — Ёсць попыт на паслугі — гэта справа прыватніка, якую лічбу намаляваць. Што мы заўсёды ўсіх зраўноўваем, вучым?! Гэтую псіхалогію трэба мяняць. Мы хочам жыць пры добрым капіталізме, але думаем катэгорыямі 25-гадовай даўніны: галоўнае, каб было бясплатна і на халяву — тады ўсё нармальна.

Не падабаецца кошт — ідзіце ў дзяржаўную паліклініку, там яшчэ ніхто нікому не адмовіў. І чым хутчэй мы адыдзем ад такіх гутарак — вось, занадта дорага — тым лепш будзе для нас.

Я лічу, што цэны на медыцынскія паслугі ў нас адэкватныя. Параўнаць нашы цэны з еўрапейскімі? На мой погляд, такія паралелі праводзіць нельга, бо гэта непараўнальныя паняцці. У нас розны ўзровень заработнай платы. І там медыцынскія паслугі раз у дзесяць будуць даражэйшымі. Таму да нас і прыязджаюць — напрыклад, тыя ж расіяне — за рознымі медыцынскімі паслугамі. Тут два моманты: высокая кваліфікацыя нашых спецыялістаў і больш даступны кошт, чым у Расійскай Федэрацыі.



*Такая дарагая пломба*

Іншае пытанне, што медыцынскія паслугі прыватных цэнтраў могуць быць даступныя не для ўсіх беларусаў. Але калі гэты матэрыял для пломбы каштуе, умоўна кажучы, 20 долараў, то паслуга ніяк не можа каштаваць 19! Кошт візіту да ўрача складаецца і з кошту матэрыялу, і работы спецыяліста, і арэнды будынка, у якім ён працуе і інш.

Заўсёды павінна быць альтэрнатыва. У мяне ёсць грошы і жаданне — я іду ў прыватны сектар. Ён, дарэчы, і ствараецца для таго, каб разгрузіць бюджэтныя ўстановы. Хто па нейкіх прычынах не можа — няхай думае, як зарабіць больш грошай.

Дарэчы, Ігар Зелянкевіч лічыць, што ў Беларусі яшчэ недастаткова недзяржаўных медыцынскіх цэнтраў. Іх павінна быць значна больш.

— Павінна стварацца канкурэнтнае асяроддзе, — абгрунтоўвае сваю пазіцыю экс-кіраўнік медыцынскай галіны. — Каб чалавек мог выбраць і доктара, і прыдатную цану. Толькі галоўнае — не перашкаджаць стварэнню такіх цэнтраў. І для таго, каб такі від прадпрымальніцтва атрымаў развіццё, патрэбны нават нейкія прэферэнцыі, я думаю.

**МАРЫНА МІТ**

**P.S.** А вы, паважаныя чытачы, выбіраеце звычайныя паліклінікі альбо наведваеце прыватныя медыцынскія цэнтры? Будзем вам удзячны, калі падзеліцеся сваім вопытам.

# ДЗВЕ БЕЛАРУСІ Ў МАНЧЭСТАРЫ

**Папрацаваць на Алімпійскіх гульнях — мара многіх журналістаў. Але часам і ў ролі шараговага заўзятара можна пабачыць і адчуць не менш. Карэспандэнт "Тут і цяпер" назіраў стракаты беларускі гармідар на гульні групавой стадыі алімпійскага футбольнага турніру Беларусь — Бразілія ў Манчэстары.**

## РАНІШНІ АЖЫЯТАЖ

Транспартны калапс у Лондане — гэта тое, чаго найбольш асцерагаліся арганізатары і госці Алімпійскіх гульняў. Каб гэтага пазбегнуць, у мадэрнізацыю і развіццё транспартнай сістэмы Лондана было ўкладзена больш за 6 мільярдаў фунтаў. У першыя дні Гульняў у брытанскай сталіцы ўсё было якраз даволі штатна, а вось з транспартам у іншыя брытанскія гарады, што прымаюць тыя ці іншыя алімпійскія віды, аргкамітэт пралічыў усё.

29 ліпеня ў Манчэстары мелі адбыцца два матчы групы "С" алімпійскага футбольнага турніру: Егіпет – Новая Зеландыя і Беларусь – Бразілія. З самага ранку зала чакання лонданскай станцыі "Юстан", адкуль ідуць цягнікі на Манчэстар, была расквечана людзьмі ў жоўта-зялёных колерах бразільскага сцяга…

Цягнікі ў Брытаніі камфортныя, з персанальнымі мяккімі крэсламі. Квіткі заўсёды прадаюць адпаведна колькасці крэслаў. Але не гэтым разам. Уладальнікі квіткоў на футбол у лічаныя хвіліны занялі не толькі ўсе крэслы, але і месцы ў праходах вагонаў. Бітма набіты міжгародні цягнік упершыню бачыў, напэўна, не толькі я, бо цягам добрай гадзіны пачцівы голас машыніста перапрашаў за непрадбачаныя нязручнасці.

Прабіраюся праз рознакаляровы натоўп фанатаў у вагонах, на вочы трапляецца першы чырвона-зялёны сцяг. Намацваю ідэалагічную глебу, выгукваючы "Жыве Беларусь!". Праз паўзу чую за спінай крыху асцярожнае "Жыве!".

## СЦЯГ "НЯІСНАЙ КРАІНЫ"

На вакзале ў Манчэстары дамінуюць усё тыя ж жоўта-зялёныя фарбы. Збіраем нашу беларускую з бразільска-партугальскім дамешкам талаку, разгортваем бел-чырвона-белыя сцягі, наносім на твары баявую расфарбоўку нацыянальных колераў.

"О, нашы!" — на падыходзе да хатняй арэны "Манчэстар Юнайтэд" "Олд Трафард", дзе павінна адбыцца гульня, сустракаем першую групу беларускай моладзі. Суайчыннікі як з бел-чырвона-белымі, так і з чырвона-зялёнымі сцягамі і шалікамі фатаграфуюцца на памяць.

У шапіках з футбольнай сімволікай прадаецца чырвона-зялёная атрыбутыка. Праходзім нескладаную сістэму кантролю і трапляем на арэну. У нас квіткі на розныя трыбуны, таму рассяроджваемся па ўсім перыметры поля невялічкімі групкамі. Разам з таварышам разгортваем два досыць вялікія бел-чырвона-белыя сцягі, і тут я разумею, што дагэтуль не выпадала сутыкацца з падобным адчуваннем: ты сядзіш на трыбунах сярод 65 тысяч гледачоў са сцягам, па сутнасці, няіснай краіны; месцічы ды замежнікі толькі здзіўлена пацепваюць плячыма — што ж гэта за сцяг такі, які не супадае з ніводным са сцягоў удзельнікаў футбольнага турніру?

Тым часам грымяць першыя акорды гімна Нестара Сакалоўскага. Мы падымаемся і ўздымаем сцягі дагары.

*Заканчэнне на стар. 8*

# “РАЗУМНЫХ ДЫЙ БЕДНЫХ”

Платная адукацыя ў нашай краіне ўжо даганяе Польшу і Чэхію.

Уступная кампанія ў ВНУ Беларусі амаль завершана: бюджэтнікі ўжо “адстраляліся”, а 6 жніўня скончылася і залічэнне на ўсе платныя аддзяленні ў ВНУ другога патоку. 54 дзеючыя ў краіне дзяржаўныя і камерцыйныя ўніверсітэты, інстытуты ды акадэміі планавалі прыняць сёлета ў шэрагі студэнтаў каля 91 тысячы чалавек. Але рэальна гэтая лічба можа аказацца прыкметна меншай — нават у апошнія дні прыёму дакументаў на многія спецыяльнасці адзначаўся недабор платнікаў. Наколькі даступна сёлета для беларусаў вышэйшая адукацыя, удакладняе **“Тут і цяпер”**.



*Гэта раней такая форма выпускніка вну вабіла амаль усіх маладых дюдзей*

## АДУКАЦЫЯ АПЯРЭДЖВАЕ ІНФЛЯЦЫЮ

На нядаўняй нарадзе Міністэрства адукацыі была агучана інфармацыя аб тым, што з 1 верасня 2012 года беларускія ВНУ могуць павысіць кошт навучання максімум на 29%. Большасць устаноў адукацыі не сталі чакаць заканчэння тэрміну прыёму дакументаў на платнае навучанне — 4 жніўня — і агучылі павялічаныя ўжо кошты на 2012/2013 навучальны год. У сярэднім ён абыдзецца бацькам наваспечаных першакурснікаў у 10—12 мільёнаў беларускіх рублёў, або амаль у тры сярэднебеларускія заробкі (паводле даных Белстата, за чэрвень 2012 года ён склаў 3,75 мільёна рублёў).

Для параўнання: на пачатку 2011/2012 навучальнага года найбольшы цэннік быў у БДУ — 5,48—7,48 мільёнаў рублёў, БДТУ — 6,26 мільёнаў і БНТУ — 6,18—6,42 мільёнаў, сярэдні ж кошт платнай вышэйшай адукацыі складаў 5 мільёнаў рублёў http://www.belta.by/ru/infographica/i_924.html. Узгадаўшы, паводле Белстата, сяэрднебеларускі заробак у чэрвені 2011 года — 1,87 мільёна рублёў, атрымаем, што год вучобы ў ВНУ летась каштаваў амаль тры сярэдніх заробка. Пры гэтым кошт навучання цягам года павялічваўся тройчы (у верасні, лістападзе 2011-га і лютым 2012-га), а ў некаторых ВНУ і 4 разы!

## НЕБЛІСКУЧЫЯ БАКІ АДНАГО МЕДАЛЯ

“Ну што сказаць? — паціскае плячыма маці другакурсніка Тамара Салаўёва. — Навіна, канечне, не самая прыемная, але мы да павышэння рыхтаваліся, таму асабліва абурацца няма з чаго. Заплацім колькі трэба і за гэты год, і за наступныя, зато потым нічога не будзем вінныя гэтай дзяржаве. Мы, дарэчы, год назад адразу ішлі на платнае. І не таму, што ў сына мазгоў мала, а ў мяне грошай многа, як некаторыя знаёмыя лічаць, а, па-першае, каб не трапіць у ідыёцкую сітуацыю з-за асобнага конкурсу для “сельскіх” і “гарадскіх” — крыўдна ж не паступіць толькі таму, што не трапіў у “гарадскую” квоту”. І па-другое: я цяпер сплю спакойна, бо ведаю, што праз некалькі гадоў сыну не трэба будзе адпрацоўваць у якой-небудзь маляўнічай глухамані за жабрацкія грошы. Тым больш сын маёй дапамогай не злоўжывае і ўжо знайшоў сабе неблагую падпрацоўку абсалютна самастойна”.

11-класніцу Алену Міхальчык уступны марафон чакае толькі на лета, але ўжо сёння, прызнаецца дзяўчына, яна ўзважвае, колькі высілкаў і грошай запатрабуе вышэйшая адукацыя: “Я з сям’і патомных урачоў, таму адказ на пытанне “кім стаць?” быў знойдзены яшчэ ў малодшых класах. Аднак чым бліжэй да паступлення, тым часцей задумваюся, ці правільны гэта будзе выбар. Прахадны бал на маю спецыяльнасць сёлета склаў 315, летась быў 290. Рэальна ацэньваючы свае магчымасці (а я далёка не выдатніца і не пераможца гарадскіх і рэспубліканскіх алімпіяд), разумею, што на бюджэт магу і не прайсці. Платнае ж навучанне запатрабуе сама менш 14 мільёнаў рублёў у год (і гэта сённяшнія цэны, а праз год-два яны будуць яшчэ вышэйшымі!). Бацькі запэўнілі, што здолеюць аплаціць мне вучобу, і сказалі, каб я ні ў якім выпадку не адмаўлялася ад мары стаць урачом. Але я не хачу сядзець у іх на шыі, бо ведаю, як цяжка гэтыя грошы дастаюцца. Каб найхутчэй вярнуць бацькам пазыку, трэба будзе падацца ў стаматологі ў які-небудзь камерцыйны цэнтр, а мяне ж прыцягвае педыятрыя, дзе заробкі — слёзы дый толькі. Часам думаеш: мо лепш плюнуць на той “мед” і скончыць пасля школы курсы маляроўтынкоўшчыкаў? Буду зарабляць па паўтары тысячы ўмоўных, як матчына прыяцелька, і смяяцца ўголас над “разумнымі і беднымі”, якіх кожны будаўнік лёгка абвядзе вакол пальца і развядзе на грошы”.

## МІЖРАДКОЎЕ

Студэнцкае пагалоўе ў сінявокай няўхільна змяншаецца. Так, леташні план прыёму ў ВНУ краіны быў большым за сёлетні на 15 тысяч месцаў (планавалася прыняць 105 тысяч, рэальна ж паступілі ўсяго 89,7 тысячы чалавек), а ў 2010/2011 навучальным годзе студэнтамі сталі каля 103 тысяч чалавек.

“Частка маіх вучняў ужо некалькі гадоў займаецца не па беларускіх, а па расійскіх падручніках і метадычках, — дзеліцца назіраннямі рэпетытар па матэматыцы Юрый Шаліма. — Не трэба быць занадта шыракалобым, каб здагадацца, навошта ім гэта. Кошт навучання, напрыклад, у смаленскіх філіялах ВНУ цалкам параўнальны з нашымі, пры тым што ён пераглядаецца ў бок павелічэння не так імкліва, як у нас, а мноства платных пераэкзаменовак дае магчымасць атрымаць “корочки” нават вельмі ляні-

# СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ?

ваму і "дубоваму" студэнту. Прынамсі, асабіста я не ведаю ніводнага чалавека, адлічанага са смаленскіх ВНУ за непаспяховасць".

## УЧОРА І ЗАЎТРА

"Вучыцца ў беларускіх ВНУ — усё адно што гуляць у рускую рулетку, — крывіцца Міхась Бараноўскі, бацька трэцякурсніцы аднаго са сталічных універсітэтаў. — З аднаго боку, узровень тэстаў такі, як быццам цягнуць паступаць усіх жадаючых; з другога, ці не ў апошні дзень прыёму дакументаў — бамс, абвяшчаюць ТАКІ кошт навучання, нібыта адкрытым тэкстам гавораць першакурснікам і бацькам: "ідзіце адсюль, у вас грошай не хопіць вучыцца ў нашай найкруцейшай ВНУ". Летась пасля лістападаўскага павышэння цаны нам давялося даплаціць больш за мільён, а ў лютым — яшчэ мільён. Нядрэнна так, праўда? Ні якасць навучання, ні матэрыяльная база ад гэтага не палепшыліся, дый, мяркуючы па водгуках выкладчыкаў, якімі прыкрываецца рэктарат, на іх зарплаты нашы даплаты амаль што не паўплывалі. Калі сёлета сітуацыя паўторыцца, то будзем абмяркоўваць з дачкой варыянт пераходу на завочнае".

"Складана прагназаваць, якія перспектывы чакаюць вышэйшую адукацыю, — разважае эксперт "Тут і цяпер" экспрарэктар БДУ Анатоль Паўлаў. — Мяркую, увогуле ад яе атрымання мала хто адмовіцца, бо ў свядомасці бацькоў — і гэта цалкам правільна — сядзіць упэўненасць, што вышэйшая адукацыя дае чалавеку большыя перспектывы. Няхай будаўнік сёння зарабляе больш за медыка, але гэта не назаўсёды, пагадзіцеся. Я перакананы, што калі ў маладога чалавека добры розум, то ён знойдзе выйсце. У нас кошт платнай адукацыі даганяе, калі ўжо не дагнаў, тыя ж Польшчу і Чэхію, у той час як беларускі дыплом у Еўропе яшчэ трэба пацвярджаць (мы ж дагэтуль не ўвайшлі ў Балонскі працэс). Так што варыянты ёсць, і моладзь, якая думае пра будучыню, іх абавязкова знойдзе. Прычым гэта зробяць самыя адораныя і разумныя, а ў нас застануцца "сярэднякі". На жаль, у Беларусі дагэтуль не могуць зразумець, што, перш чым патрабаваць аддачу, ва ўсё гэта трэба ўкладваць грошы, — у навуку, адукацыю, ахову здароўя, спорт і г.д.".



*Дыплом, хоць слуцкім поясам перавяжы, больш грашовым не стане*

Атрымліваецца, альтэрнатыў у сённяшніх старшакласнікаў і іх бацькоў зусім няшмат: альбо пачынаць адкладваць грошы на ВНУ ледзь ці не з 1 класа, альбо адмаўляцца ад "корочек" увогуле і аддаваць перавагу, як настойліва вымушае "партыя", перайменаваным у каледжы тэхнікумам і прафтэхвучылішчам, альбо ўсё ж атрымаць вышэйшую адукацыю, але ўжо не "між Літвой і Украінай", а ў іншых шыротах. І застацца працаваць там жа.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**ЦАНА ВЕДАЎ (ДЛЯ ПЕРШАКУРСНІКАЎ) У 2012/2013 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ**

| | дзённая форма | завочная форма | іншае |
|---|---|---|---|
| **БДУ** | 11,8—14,95 млн | 4,95—6,95 млн | |
| **БДЭУ** | 11,358—11,587 млн | 4,406 млн | другая вышэйшая адукацыя 4,554 млн |
| **БНТУ** | 12,6—12,8 млн | 5,325—5,477 млн | |
| **БДУІР** | 12,7—14,7 млн | 4,5 млн | вячэрняя 8,7 млн |
| **Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт** | 10,7 млн | 3,5 млн | |
| **Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце РБ** | 13,32 млн | 6,5 млн | другая вышэйшая 6,678 млн |
| **Медыцынскі ўніверсітэт** | 12,5—15,96 млн | (толькі фармацэўтыка) 5,48 млн | |
| **Магілёўскі дзяржуніверсітэт імя Куляшова** | 9,5—10 млн | 2,9 млн | |
| **Брэсцкі дзяржуніверсітэт імя Пушкіна** | 11,1—12 млн | 3,759—4,11 млн | |
| **Віцебскі дзяржуніверсітэт імя Машэрава** | 10,75—12,2 млн | 3,5—3,7 млн | |
| **Гомельскі дзяржуніверсітэт імя Скарыны** | 9,996 млн | 4,913 млн | |
| **Гродзенскі дзяржуніверсітэт імя Купалы** | 11—12,39 млн | | |
| **Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Вільнюс)** | 1,2—2,3 тысячы еўра (12,2—23,39 млн), *але пры гэтым амаль 60% студэнтаў атрымліваюць зніжкі ў 400—800 еўра ці нават стыпендыю 2000 еўра ў год* | | |
| **Універсітэт інфармацыйных тэхналогій (Варшава)** | 3600 злотых (8,9 млн беларускіх рублёў) | | |
| **Смаленскі гуманітарны ўніверсітэт** | 32,7—35,7 тыс. расійскіх рублёў (8,368—9,656 млн беларускіх) | завочная 25,5 тыс. расійскіх рублёў (6,556 млн беларускіх) | |

# ДЗВЕ БЕЛАРУСІ Ў МАНЧЭСТАРЫ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 5*

Цяпер у навакольнай публікі няма пытанняў, каго мы падтрымліваем.

## ЯК МЫ ТРАПІЛІ Ў ТЭЛЕВІЗАР

На 8-й хвіліне беларускі бразілец Брэсан забівае эфектны гол суродзічам. Мы лямантуем ад шчасця. У нашых бразільцаў, якія дагэтуль адно жартавалі што да шанцаў беларусаў у гэтай гульні, на тварах непаразуменне — "Што гэта было?". Наша свята, праўда, доўжылася ўсяго 7 хвілін, але пра выніку (Беларусь – Бразілія — 1:3) вы, мусіць, ведаеце.

У перапынку нашы лацінаамерыканскія сябры кажуць, што іх сяброўка бачыла нас з бел-чырвона-белымі сцягамі па бразільскім тэлебачанні. Амаль сінхронна пацвярджэнне прыходзіць і з радзімы. Характэрна, што рэжысёры тэлетрансляцыі паслядоўна суправаджалі кадр з чырвона-зялёнымі беларускімі заўзятарамі бел-чырвона-белымі. Нашы сцягі пабачылі мільёны тэлегледачоў!

Цікава, што ў некалькіх шэрагах ніжэй за нас сядзіць досыць маладая сямейная пара пад афіцыйным сцягам Рэспублікі Беларусь. Яна ніяк не рэагуе на нашы беларускамоўныя выгукі і другія сцягі, пакідаючы гульню пасля трэцяга бразільскага гола ў нашу браму.

Сыходзячы з трыбун, сутыкаемся ўжо з іншай групай чырвона-зялёных заўзятараў спартовага целаскладу. Хлопцы жывуць і працуюць у Лондане. Адзін з іх спрабуе адказваць па-беларуску, другі выбачаецца, што не можа рабіць гэта належным чынам. Рукаемся і кіруемся да выхаду з арэны.

## МЕСЦА СУСТРЭЧЫ — ПАБ

Выходзячы са стадыёна, уліваемся ў шматтысячную плынь аматараў. Выхопліваю з натоўпу аскепак афіцыйнай дэ-




*Манчэсцер, можа, у першы раз убачыў бел-чырвона-белыя. Але дакладна не ў апошні*

легацыі Беларусі — пратаіерэя Фёдара Поўнага і пасла Аляксандра Міхневіча. Пабачыўшы нашы сцягі, святар у цывільным нешта кажа дыпламату.

Па дарозе абменьваемся вітаннямі з некалькімі групкамі беларусаў, каб урэшце натрапіць на значную частку тых, хто падтрымліваў нашу зборную, у прыстадыённым пабе.

А паглядзець там было на што. У Манчэстар прыехалі беларусы самых розных масцей: ад беларускамоўнага праграміста "Гугла" Ігара Маханько з Цюрыха ды групы яго калег з Мінска да бізнесоўцаў і спартоўцаў з Беларусі, беларускіх студэнтаў і прафесіяналаў з Кембрыджа і Глазга, Лондана, Ковентры.

Нехта з іх даволі лёгка падтрымліваў размову па-беларуску. Нехта цікавіўся: "А вы всегда разговариваете по-белорусски? А почему вы говорите по-белоруски?" За год у Лондане я неяк адвык ад такіх пытанняў…

У асноўным людзі ставіліся да нашай беларускай мовы і бел-чырвона-белых сцягоў прыязна ды памяркоўна. За выняткам некалькіх выпадкаў.

Майго знаёмага, які таксама падтрымліваў нашых футбалістаў з гістарычнай сімволікай, вельмі ўразіла сямейная пара гадоў 50-ці ў саламяных капелюшах ды з чырвона-зялёнымі сцягамі. "Аказалася, яны даволі даўно жывуць у Брытаніі, — распавядае Сяргей. — З намі яны размаўлялі па-беларуску, а сімволікі ў іх не было ніякай — набылі тую, што прадавалася пры стадыёне. Увогуле, мы падыходзілі да ўсіх "чырвона-зялёных", каго сустракалі. Амаль усе яны былі адэкватныя і, падалося, для іх не было вялікай розніцы, з якім сцягам хто прыйшоў", — распавёў Сяргей.

## НЕ БРЭСАНАМ АДЗІНЫМ

"Жыве Беларусь!" – сустракае мяне ў задніх дзвярох калястадыённага паба дзяўчына характэрнай лацінаамерыканскай знешнасці з бразільскім шалікам. На аўтамаце адказваю "Жыве!" і рушу далей, як у галаве страляе: гэта ж "не наш" чалавек!

"Адкуль вы ведаеце беларускі дэвіз?" – разгублена пытаюся ў яе па-ангельску. "Я не размаўляю па-беларуску", — адказвае бразільянка мне па-беларуску(!). І тут я разумею: гэта ж тая самая дзяўчына, што спявае беларускія песні, пра якую летась распавядала "Еўрарадыё".

Крыміналіст паводле першай адукацыі Андрэа Жавана аднойчы сустрэла хлопца з Беларусі на канферэнцыі ў Бразіліі і з таго часу зацікавілася нашай краінай і культурай. Асабліва бразільянка ўпадабала беларускі рок-н-рол, праз які яна спрабуе вывучыць беларускую мову. Зараз Андрэа жыве ў Лісабоне, а ў Брытанію прыехала адведаць брата ды заадно наведаць алімпійскі футбол Бразілія – Беларусь.

"Я так рада, што сустрэла некага з сапраўдным беларускім сцягам!" – захоплена кажа яна.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН—МАНЧЭСТАР**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 09.08.12
Тыраж 299 экзэмпляраў